# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 21 (1213) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 27 МАЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.

## ЯНА ІМ ЗА МАЦІ

Дзень добры ў хату, — кажу, уваходзячы з сенцаў у прасторную відную кухню.

— А добры, добры, — адказвае разрумяненая бабуля. Яна стаіць ля вялізнай рускай печкі, нахіленая над плітой, дзе скварчаць-падскакваюць на патэльні апетытныя скваркі. У хаце смачна пахне варанай капустай, а бабуля з таўкачом завіхаецца над таўканіцай.

— Можна да вас? — пытаюся.

— Заходзь, заходзь, — бабуля кідае таўкач і набліжаецца да мяне. — А ты хто такая будзеш, нешта не прыпамінаю. Прабач, памяць у мяне ўжо не тая.

— Не, не, — супакойваю я бабулю. — Вы мяне не ведаеце. Я першы раз да вас. Кажуць, вы сірот гадуеце?

— Ага, ага, гадую, міленькая, гадую, — бабчыны вочы чырванеюць, вусны пачынаюць дрыжаць. — Паўтара года ўжо будзе, як дачка памерла. I на мяне іх пакінула. А якія хлопцы, каб ты бачыла, ой, харошыя, красівыя. Не наглядзецца. У школе яны цяпер. Але я іх добра гляджу, стараюся. Мусіць, і Бог сірот шкадуе, што мне ў 72 гады здароўе дае. Я яшчэ ім усё зраблю: і памыю, і пачышчу. Нават без пралькі — навошта яна мне, старой? Хадзі паглядзі, як яны ў мяне спяць.



— Ой, як ты хуценька пішаш! Можа і я так магла б, каб павучылася. А я ж няграматная, крэсцікі стаўляю. Калі ж мне было вучыцца? У царскую вайну... Ты памятаеш?... А дзе ж табе памятаць, ты ж такая, як мая дачка, а яе яшчэ тады не было. Дык ведаеш, калі тая вайна была? Мне тады восем гадоў было. Я пешкі ў бежанства ішла. Зайшлі мы далёка, ой, далёка. Там чыста па-руску гаварылі. I я навучылася гаварыць, як руская, і цяпер умею. А замуж выйшла позна, 28 гадоў мне было. Выгадавала дачку і сына. Сын цяпер у Гайнаўцы жыве. А дачка — бачыш як? Няма яе. Толькі Андрэйку з Яськам мне пакінула. I вось на старыя гады я зноў, як маці. Але пільную іх, стараюся, сваруся, калі трэба. Вечарам гляджу, каб памыліся. „Мыйце ногі, — кажу, — бо ў чыстую пасцель не пушчу. Цяжка мне мыць яе, запэцканую". Гэта памагае. Слухаюцца. Шкадуюць яны мяне. I шыю мыюць, як дапільную. А ў школу пойдуць, дык дачакацца не магу, каб хутчэй вярнуліся.

Я і ў школу хаджу, з кіраўнікам гаварыла не раз. А той, чалавек разумны, супакойвае мяне: „Не турбуйся, — кажа, — бабка. З хлопцамі ўсё ў парадку. Добра вучацца". Я сваім малым нічога не шкадую. Спачатку мы жылі за 1500 злотых пенсіі. Зямлю мы са старым здалі. Паўгектара

Бабка вядзе мяне „на хату". У вялікім пакоі высокі ложак з падушкамі, прыкрыты саматканай посцілкай, побач — вялікая шафа, а на сцяне паміж вокнамі, над сталом вялікі, з паўметра вышыні, партрэт, а хутчэй не партрэт, а каляровая карціна, зробленая рукой вандроўнага партрэтыста, — два бялявыя хлапчукі ў поўны рост.

— Вось яны, мае красаўцы, — не стрымалася бабка і зноў расплакалася. Потым высыпала на стол пачку фатаграфій.

— А гэта яна ў труне. 39 гадоў ёй было. Яны ўсёй сям'ёй у нашай хаце жылі. Нацярпелася яна ад мужа, моцна піў ён. Не на многа яе перажыў. Нават не ведаю, калі і дзе памёр. А перад тым не раз прыходзіў да нас п'яны, дзяцей ганяў, і я ў суседзяў начавала. Нядобры быў чалавек. А я дзяцей у крыўду не дам. Я ўсюды дайду, усё выстараюся. Не глядзі, што старая. Калі на судзе (ага, гэта ўжо пасля смерці дачкі) іх бацька тлумачыўся, што я яго з хаты выгнала, я не вытрымала, адразу ўстала і кажу: „Проша сонду, я і сабаку з хаты не выгнала б. А такога п'яніцу, што дзяцей страшыў, не магла ў хаце сцярпець. Выгнала, бо дзяцей шкадавала. I дачка на той свет пайшла з-за яго."

Бабка зноў выцірае вочы ражком хусткі, паволі супакойваецца, глядзіць, як я запісваю.



агарода нам пакінулі. Есці хапае. Некалькі разоў з гміны на дзяцей давалі па тысячы злотых, са школы — па 400 давалі. Так і жылі. А ад гэтага месяца дзецям пенсію прызналі — 3400 злотых на дваіх. Праўда, амаль адразу ж выдала ўсё ім на адзенне — то курткі, то нагавіцы, то боцікі. Хлопцы жвавыя, на іх адзежа аж гарыць. Людзі таксама памагаюць, хто чым можа.

Як забірала я дачку ў труне са шпіталя, згадзіла шафёра за 1000 злотых, каб прывёз дахаты. Прыехалі мы дадому, стары выходзіць на парог дачку сустракаць, а за ім і малыя высыпалі. Як убачыў хлопцаў шафёр, так і расплакаўся. Памог у хату труну ўнесці і ад'язджае. Я яму грошы даю. А ён не бярэ. „Сіротам, — кажа — пакіньце. Ім на хлеб трэба". Вось які чалавек трапіўся. Толькі на бензін 200 злотых узяў. I многа такіх добрых людзей ёсць.

...Хвіліну маўчым. Бабка Аўдоцця задумалася. Відаць, успаміны адкінулі яе да тых кашмарных дзён, калі трэба было развітвацца з найдаражэйшым чалавекам, са стварэннем, вынятым з-пад сэрца, выгадаваным, галубленым. Спадзявалася бабка, што дачка яшчэ яе пахавае ды помнік паставіць. Жыц-

(Працяг на стар. 4)

## КАВАЛЕР ОРДЭНА АДРАДЖЭННЯ ПОЛЬШЧЫ

У Нарве, у адрозненне ад іншых гмін, няма СКР-у. Сялянам дапамагае ў апрацоўцы зямлі сельскагаспадарчая тэхніка кааператыва з Васькоў. Старшынствуе ў гэтым кааператыве Міхал Хмель.

* ✲ *

Шматгалінны сельскагаспадарчы кааператыў — гэта новая з'ява ў структуры нашай сельскай гаспадаркі. Паўстаў ён на базе спулдзельні прадукцыйнай у Васьках. Думка аб яго ўтварэнні нарадзілася ў 1974 годзе. Міхал Хмель і гмінныя ўлады ў Нарве неаднойчы задумваліся над тым, што рабіць з дзяржаўным фондам зямлі, якога з кожным годам прыбывае, паколькі сяляне

## У СЛУЖБЕ ЗЯМЛІ



за пенсію здаюць сваю зямлю дзяржаве. У свой час усяго дзяржаўнага фонду налічвалася амаль 4 тысячы гектараў. Вырашылі стварыць такі сельскагаспадарчы кааператыў, які мог бы таксама абслугоўваць сваёй тэхнікай сялянскія гаспадаркі. Функцыю старшыні новага кааператыва ўлады даверылі Міхалу Хмелю, які быў вядомы сваёй ініцыятыўнасцю і арганізацыйнымі здольнасцямі.

Работы было па шыю. I арганізацыйныя справы, звязаныя з прыёмам у члены кааператыва, і купля сельскагаспадарчых машын, і будова новых памяшканняў для жывёлы, і арганізаванне паасобных прадпрыемстваў кааператыва, і справы, звязаныя з развіццём жывёлагадоўлі і апрацоўкі зямлі кааператыўнай і аднаасобнай, і маса іншых спраў.

Міхал Хмель, чалавек з моцным і прынцыповым характарам, поўнасцю аддаўся арганізацыі гэтага сельскагаспадарчага камбіната. Жыў яго вялікімі і малымі справамі, вырашаў з партыйным камітэтам ПАРП свайго прадпрыемства і прафсаюзнай радай, а калі была неабходнасць, дык і з гмінным камітэтам ПАРП у Нарве ўсе праблемы і цяжкасці, што былі на шляху радзіўшагася, а пасля буйна развіваючагася кааператыва.

Ужо цяпер складаецца ён з васьмі прадпрыемстваў. Прадпрыемства ў Васьках займаецца адкормам свіней. Цяпер іх, як інфармуе нас тав. Хмель, налічваецца 1300 штук, а ўжо ў наступным годзе будзе адкормлівацца 6.500 штук. Ёсць там таксама каровы, але толькі часова.

У Макаўцы — таксама прадпрыемства адкорму свіней. Ёсць іх 300 штук. Там будуецца свінаферма. У ёй будзе 620 месц для свінаматак.

У Крыўцы ферма малочных кароў. Пакуль што іх тут 120 штук. Але калі пабудуецца новае памяшканне, будзе іх 500 штук. Згодна з планам будзе тут таксама гадоўля яловак і цялят.

У Тыневічах ферма адкорму быдла. Ёсць іх цяпер 1300 штук. Але ўжо ў бягучым годзе аддадуць у карыстанне памяшканні ў суседняй Даратынцы на 2000 штук.

(Працяг на стар. 2)

# ПАКУЛЬ НА СЦЭНУ, ДЫК...

Тут не так, як з іншымі драмгурткамі ці з другога тыпу самадзейнымі калектывамі, тут крыху па-другому. Усяго толькі чатыры гады, чатыры гады на падборку людзей з акцёрскімі здольнасцямі, падрыхтоўку іх, пастаноўкі — толькі што паспеў акрыяць, а тут трэба ўжо складаць падручнікі і развітвацца са школай. І зноў новыя людзі, і зноў трэба ўсё паўтараць спачатку. Зноў настаўнікі думаюць, як пакіраваць, каго падабраць.

— Вось у гэтым годзе з сямі асоб, выступаючых на сёлетнім аглядзе, шэсць — гэта матурысты. Адыдуць, — гаворыць Вера Рышчук, настаўніца беларускай мовы і кіраўнік гуртка. — Вучні, што праўда, горнуцца, хочуць працаваць, але без дапамогі, падтрымкі ды зацікаўлення з боку і ахвота лопне бурбалкай.

Ужо некалькі год падрад самадзейнікі з Бельскага белліцэя выступаюць на наладжваемых Галоўным праўленнем БГКТ цэнтральных аглядах драмгурткоў. Спачатку калектывам кіравала Зіна Дзем'янюк. А вось ужо два гады апякуецца ім Вера Рышчук. У мінулым годзе паставілі „Не верце цішыні" Івана Шамякіна. Занялі добрае месца. Дасканалая падрыхтоўка, дэкарацыя, высокакласнае, як на аматараў, акцёрства Мікалая Хіліманюка, якому была прызнана спецыяльная ўзнагарода. Шкада толькі, што ўсё канчаецца на аглядзе, што разам з ім абрываецца жыццё драмгуртка. Ну бо, зразумела, жыве ён датуль, пакуль ёсць магчымасць выступаць. А яны з ахвотай падзяліліся б пладом сваёй штомесячнай, нялёгкай працы.

У бягучым годзе падрыхтавалі „Пад адным небам" Аркадзя Маўзона. Выбар



зусім не выпадковы, не то, што ўзялі першую лепшую і паставілі, не. З вялікай дапамогай калектыву прыходзяць Валя Андрэюк і Янка Крупа. Доўга ішла падборка і параілі ўзяць гэтую.

— Няма сумненняў, п'еса нялёгкая як для аматараў, але папрацаваўшы..., — сказала В. Андрэюк.

І пачалі працаваць. Рыхтаваліся амаль ад самага пачатку школьнага года. Падзел роляў, рэпетыцыі. Нібы ўсё гэта адбываецца ў межах гуртка зацікаўлення, але як часта даводзілася сядзець пасля адведзенага на гэта часу. І то не то, што прыходзіла столькі вучняў, колькі выступае ў п'есе асоб. Тут справа ў тым, каб выбраць найлепшых.

— Мы робім так. Бярэм, прыкладна, гэту самую п'есу з двума класамі і рыхтуемся. Потым праводзім некалькі такіх сваіх унутраных аглядаў і супольна выбіраем. Вучні не то, што саромеюцца ідзін другому паказаць недахопы, яны адкрытыя і самакрытычныя, — тлумачыць Вера Рышчук.

І праз нейкі час паяўляецца група найлепшых, з якой пачынаецца пастаянная рэгулярная праца. З нічога нічога не вырасце. Чытанне, прысвойванне рухаў, навука перажывання зместу, унікание ў герояў п'есы.

— Не хапае нам аднаго істотнага, — гаворыць настаўніца. — Каб можна было хаця некалькі рэпетыцый правесці на сапраўднай сцэне. У нас усё адбываецца ў класных залах. Памяшканне невялікае. Вучні пастунова пачынаюць да іх прывыкаць і потым раптам на такім аглядзе апынуцца на сцэне. Яны як бы губяцца ў гэтай велічыні залы. Прафесіяналам — гэта ўсё роўна, але аматарам цяжка.

Несумненна, так. Гэта так, як дзіцё, якое ўпершыню выйшла на панадворак. Пакуль прывыкне, стаіць разгубленае. Раптам усяго поўна. Але ж у Бельскім доме культуры ёсць зала, ёсць сцэна. Ці ж нельга было б, хоць зрэдку, дазволіць на правядзенне рэпетыцый?

А вучні працуюць ахвотна, з душою. Ведаюць, што робяць гэта для дабра школы, для свайго горада. Як ужо ўпаміналася, большасць з іх у гэтым годзе закончыць школу, унёсшы значны ўклад у яе культурную дзейнасць. І хай прозвішчы: Кобусь Валодзя, Кудэрскі Павел, Ляшэўская Жэня, Максімюк Міхась, Семянюк Галіна, Хіліманюк Мікалай, Хурса Аня будуць факелам для іх малодшых сяброў.

**Міхась Шаховіч**

Фота Янкі Целушэцкага

**УСПАМІНЫ (21)**




**ЮБІЛЕЙ**

Год 1974. 26 студзеня зноў у Залуках. Адкрыццё філіі гміннай бібліятэкі. Сабралася вельмі многа публікі, прыехала гміннае начальства. Мы падрыхтавалі спецыяльную праграму. Нядаўна тут былі. Амбіцыя. І заўсёды стараемся праграму прыстасаваць да характару ўрачыстасці. Былі тады і актуальныя частушкі:

*Uroczystość dziś niemała,*
*Do Załuk władza zjechała.*
*Bibliotekę macie dużą,*
*Niech wam książki wiernie służą.*

У нас у Гарадку на Кашаровай вуліцы, дзе жыве начальнік гміны Я. Матэйчук, брук вузкі, і як з'явіцца з аднаго боку фурманка-балон, а з другога — грузавік, вянкі праклёнаў ляцяць на гмінную ўладу. На дапамогу выклікаюць „маць". Сам начальнік не без цяжкасці ўязджае ў гараж сваёй „Сірэнай" Дык і мы прыпелі:

*Nasz naczelnik ma Syrenę,*
*Wjechać w garaż jest problemem;*
*Motor warczy, jęczy, wyje,*
*Psy szczekają przeraźliwie.*

Гэты куплет вызваліў агульны смех. Начальнік пачырванеў і закруціўся ў крэсле.

Пасля канцэрта былі танцы, але транспарт дало нам надлясніцтва з Валілаў і шафёр тарапіў вяртацца, і мы паехалі дамоў.

У пачатку студзеня на першым пашыраным пасяджэнні Павятовага праўлення БГКТ я паведаміла, што 8 сакавіка нашаму мастацкаму калектыву споўніцца 20 год. Вестка выклікала сярод прысутных незвычайна вялікае зацікаўленне. Усе дакаралі мяне, чаму так позна аб гэтым сказала. Ці хопіць часу падрыхтаваць належную ўрачыстасць? Вырашылі адразу прыступіць да дзеяння. Нягледзячы, што над падрыхтоўкай юбілею працаваў цэлы штаб людзей, я была той шасцярнёй, якая рухала на месцы ўсё мерапрыемства.

Наступіў вызначаны дзень. Увесь дом культуры зіхацеў чысцінёй і дэкарацыяй. Прыехалі высокія госці. Пасля акалічнаснага дакладу, прыезныя прадстаўнікі віншавалі наш калектыў, жадалі нам далейшых поспехаў і ўручалі падарункі. Атрымалі мы калектыўную ўзнагароду „Заслужаны для Беласточчыны". Беластоцкі ваявода да пажаданняў далучыў 10.000 зл. Міністэрства унутраных спраў падарыла вялікі каляровы тэлевізар, ГП БГКТ — прайгравальнік. Усім удзельніцам калектыву, апрача кветак, павятовыя ўлады ўручылі грашовыя ўзнагароды. Пасля прамоваў гасцей, узяла голас і я, сардэчна падзякавала за ўзнагароды і пажаданні, абяцала далей пашыраць песню.

Вядома, быў і юбілейны канцэрт. А потым — таварыская сустрэча. Адбылася яна на сталічны лад — стоячы. Каньяк закусвалі салонымі пальчыкамі і кракаўскімі пляцкамі. Гулялі да раніцы. Атмасфера была свабодная і сардэчная. Моладзь і старэйшыя не шкадавалі ног і падэшваў. Як гуляць, дык гуляць! Дачакаем 25-годдзя, будзе яшчэ лепш.

За 20 год далі мы каля 500 канцэртаў. Усім, хто праслаў нам з нагоды юбілею пажаданні, падзякавала ў лістах.



*Урачысты сход з нагоды юбілею. На першым плане юбіляры.*

**З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. СТАДЫІ Ў ЖЫЦЦІ ЧАЛАВЕКА**




Сёння будзем мець дачыненне з новым відам народнай творчасці — вясельнымі пажаданнямі. Была гэта творчасць двухтыпная — або кароткія вусныя выказванні, з пэўнымі агульнапрынятымі словамі тыпу „поздравляю вас з законным браком", ці „всёго вам доброго на новуй дорозі", або лістоўная, пісьмовая. Быў такі перыяд, у якім пачынала развівацца і была шырока распаўсюджана народная творчасць тыпу „фэстыннага". Даволі папулярнымі былі рыфмаваныя любоўныя лісты, ці дапіскі, замест адрасу высылаючага, робленыя на адвароце канверта, або формы распачынання ліста: „Пісьмо пішу, рука дрыжыць, гляжу ў акно, свіння бяжыць".

Гэтая творчасць „з нагоды" паявілася і ў вясельных абрадах. Калі рэч ідзе пра творчасць першага тыпу, дык была яна на мове данай ваколіцы. На супольнасць для большай акругі жыхароў паказвалі толькі паасобныя звароты, якія ўжо сёння набралі агульнасці і не выдзяляюцца так рэзка, як раней, не маюць ужо такой узнёсласці. Галоўнае, аб чым напамінаюць, гэта тое, што гэткая творчасць існавала. Цікавейшым ёсць другі тып — творчасць пісьмовая. Яна, так як і „вянкі", была на польскай мове. Ёсць некалькі прычын гэтага. Калі прааналізаваць „фэстынную" творчасць, дык уся жартоўнага характару, дзе адзін другога высмейвае, была на мове мясцовай, калі трэба было паказаць на важнасць моманту, на ўзнёсласць, выконвалася на мове польскай. Ёсць некалькі магчымасцей тлумачэння. Даўжэйшы час беларуская мова лічылася мовай мужыцкай, мовай штодзённай. Мова польская была мовай паноў. І гэта прывяло да таго, што пры кожнай нагодзе, дзе трэба было сказаць нешта вялікае, урачыстае, ці пры кожным чужым чалавеку пачыналі карыстацца мовай польскай. Нават сёння часта даводзіцца спаткацца з фактам, што, заехаўшы ў поўнасцю беларускую вёску і пачаўшы гаварыць на беларускай мове, чуеш адказ на мове польскай. Гэта працягваецца нейкі час, пакуль чалавек не пераломіцца. Усё адбываецца аўтаматычна, што сведчыць аб тым, што існаваць гэты факт дамінацыі мусіў на працягу даволі доўгага часу. Наступным тлумачэннем дамінацыі польскай мовы ў вясельных пажаданнях ці вянках можа быць з'ява нармальнага ўзаемаўплыву культур. Іншай прычынай можа быць таксама і тое, што асяроддзе Беласточчыны змешанае нацыянальна і проста гэтая галіна ў польскай народнай творчасці была мацнейшая і зрабіла свой уплыў на іншыя культуры. Калі твор быў гатовы, дык навошта тады ствараць сваё, можна ж толькі дапасаваць да сябе і крышку нешта памяньваць.

Зразумела, што ані ўсіх сабраных намі арацый, ані вясельных пажаданняў прывесці тут не зможам, але проста па адным- два дзеля прыкладу. Абодва пажаданні запісаны ва ўсходняй Беласточчыне. Прыводзім два таму, што яны зусім розныя, а гэта сведчыць аб існаванні шматлікіх варыянтаў.

1. Składam najserdeczniejsze życzenia. Ach witajcie przyjaciele. Jakie piękne dziś wesele. Każdy wchodzi uśmiechnięty tą radością dziś zajęty. Ach wy goście drogie moje. Powiem wam kłopoty swoje. Więc kłopotów co ja miałam pokąd do was się dostałam. Tutaj lasy a tu rzeka. A tu gwar słychać z daleka. Ja się pytam co takiego. Tu wesele Pana młodego. Ach rodzice moi mili przyjdźcie stańce w jednej chwili. Błogosławcie swoje dzieci. Anioł z nieba do was leci i nowinę taką głosi o wyprawę już was prosi. Niech szczęśliwie w zgodzie żyją a po śmierci w niebie byli. Niech Pan Bóg błogosławi. A Matka Miła żeby do was przybyła. A Matka Najświętsza da pamięci żeby do pracy mieli chęci. Czy to w zimie czy to w lecie sto lat życia na tym świecie. Sto lat życia bez przykrości od młodości do starości. Proszę przeczytać panowie panie bardzo ciekawe opowiadanie. Za wygrano cię wydano nie płacz Pani młoda nie narzekaj bo taksówka stoi w drodze młody już przyjechał. Za wygrano zmów co rano trzy zdrowaś i wierzę. Kto pobożny i ostrożny teho Pan Bóg strzeże. Idź gdy trzeba niech ci z nieba niech cię Bóg prowadzi. A ten krzyżyk i szkaplerzyk w drodze nie zaważy. Dziękuję ci Pani Matko wychowała (imię) gładko. Wyuczyła a dziś ją z domu wydajesz. Dziękuję ci Ojcze drogi że wydajesz w cudze progi.

2. Dla Pani młodej i Pana młodego. Panno Młodo byłaś w kościółeczku jak Anioł w bieli w zielonym wianeczku. Chodziłaś wszędzie a teraz już tego nie będzie. Panno młodo młodziutka jesteś jak z róży kwiat idziesz za młodzieńca tego, nie wiesz jaki charakter jego. Czeka cię los albo nie los, ale nikt zgadnąć nie może tylko ty wszechmocny Boże. Panno młodo skromności twoje gdzie się podziały? Tak jak ta róża biała rozkwitać się będzie, tak twojej skromności rozplatać się będą. Przez tyle lat chodziłaś do szkoły a dziś wstępujesz w grono mężatek siedzisz za stołem, smutna i zadumana. Bo twoja przyszłość jest nie przewidziana. Lecz nie płacz nie żałuj panieństwa swego. Udaj się czule do kwiatu macierzyńskiego. Udaj się czule do Matki Najświętszej, a ona ci ten wianek poświęci. A gdy przyjdzie żywot wychowania dziatek Pan Bóg ci dopomoże. Bóg Cię wspomoże. Bóg cię uniesie na swoje łono usiądzie przy tobie na swoim tronie. A teraz mężatki zrywajcie kwiatki. A my pannie młodej zdejmiemy wianek. Panno młodo czego płaczesz smutna, łza w twoim oku patrz twój miły mąż siedzi przy boku. Podziękuj dla rodziców, że cię wychowali i za mąż wydali. Za te wszystkie starania za trudy i prace to się tobie mamulu kiedyś w życiu odpłace. To życzenie jest od Zosi. Oto ona go przynosi.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч.**

## Лічбы і факты

Згодна з прынятым Сеймам Нацыянальным грамадска-гаспадарчым планам, у бягучым годзе будзе забрана з устаноў у гарадах і пасёлках 50 тысяч тэлефонаў для індывідуальных абанентаў. Значную іх колькасць атрымаюць вядучыя сельскія гаспадаркі ў гмінах.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астрон, нядаўна снілася мне, што я на вёсцы, на сялібе майго бацькі (бацька ўжо не жыве). Іду я, бачу, пастаўлена новая брама, непамаляваная. Каля яе стаіць белы конь, запрэжаны ў фуру. Я хачу ўвайсці на панадворак, але не пускае мяне прайсці праз браму гэты конь. І невядома адкуль з'явіўся стары дзядуля і прытрымаў гэтага каня і сказаў, каб я туды не ішла, бо не прайду. А я кажу, у што б там не было, я мушу туды ўлезці. І гэты дзядуля, трымаючы таго каня, памог мне і я пералезла.

А потым сніўся другі сон. Я апранута ў чорную спадніцу і белую блузку. Пад шыяй завязана чырвоная стужачка-аксамітка. І ў сне я сябе бачу, як мне ў гэтым прыгожа.

І яшчэ адзін сон. Быццам я замужняя. Муж мой негр. Я маю з ім дзіця. І аднекуль узялася яго сястра. І вяла мяне праз тунель. Я бачу, што я адтуль не выйду. Бо тунель такі вузкі, што не прайду. Я ў чырвоных нагавіцах. Я там кручуся, стараюся вылезці і прашу негрыцянку: „Калі ты мяне сюды прывяла, то і вылезці памажы!" І яна падала мне руку і я вылезла.

А раней яшчэ маёй маме снілася, што я з сяброўкай ляжым голыя і намыленыя мылам. Мама глядзіць, што на мне гэта пена з мыла такая брудная. І пытае, дзе ж я так забрудзілася. Але я нічога не адказала.

Тамара

Тамара! Першы сон гаворыць аб тым, што пагражае табе вельмі небяспечная хвароба ці нейкія іншыя клопаты (той белы конь з фурманкай, што загарадзіў табе ўваход у браму). Выйдзеш аднак з гэтага, бо дапамог табе дзядуля, ды і дзеялася ўсё гэта на сялібе бацькі-нябожчыка, што таксама дазваляе быць добрай думкі.

Другі сон без значэння.

Трэці сон таксама сведчыць аб нейкіх цяжкасцях (той вузкі тунель), але тое, што муж твой быў неграм і негрыцянка была з табой у тунелі, гаворыць за тое, што чакае цябе канчатковы поспех у справах або павышэнне па службе.

Сон тваёй мамы гаворыць аб тым, што ты з нейкай сяброўкай хацела праявіць ініцыятыву, штосьці файнае зрабіць, а людзі вас за гэта абгаварылі.

**Астрон**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Бяда мяне спаткала. Я вучуся ў чацвертым класе тэхнікума. У час мінулагодніх канікул пазнаёмілася я са Слаўкам. Ён тады закончыў тэхнікум і толькі што стаў працаваць. Ён хлопец добры, маім бацькам падабаецца. Мы сур'ёзна гаварылі аб супольнай будучыні, нават у прысутнасці бацькоў. Але наступіць гэта мела, калі я закончу школу. А вось мая бяда — я цяжарная. Два месяцы ўжо. Аб гэтым ведае толькі Славак, больш нікому я не сказала. Ён мяне суцяшаў, казаў, што гэта справа нас абоіх і, калі ўжо так сталася, будзем яе разам разблытваць. Я адразу думала пайсці да лекара, перарваць цяжарнасць. І канец, па бядзе. Ніхто і ведаць не будзе. Але Славак супраць. Ён не дазваляе мне страціць дзіця. Кажа, пажэнімся, народзіш дзіця, а школу і пазней закончыш, завочна. Але ці так будзе добра? Не прызнаюся я яшчэ бацькам. Баюся. Мая мама такая нервовая, бяды не стане. Час хутка ляціць, думкі ўсялякія кружацца ў галаве. І што рабіць? Парай мне, Сэрцайка.

Аня з Беласточчыны

Аня! Ну, непрыемна, вядома, яшчэ не час, школа незакончаная. Але сталася. Яшчэ не ў найгоршай ты сітуацыі, бо разумна і рассудачна падыходзіць да гэтай справы твой хлопец. Ён ужо працуе, ёсць магчымасць утрымаць сям'ю. І яго прапанова ў гэтай сітуацыі, мне здаецца, лепшая. Бо перарваць цяжарнасць — не такая простая справа, як табе здаецца. Неабыякавае гэта для здароўя дзяўчыны, можна потым хварэць, ды перарыванне першай цяжарнасці і бясплоднасцю на ўсё жыццё нярэдка пагражае. А што ж сям'я без дзяцей? Такая мая думка. А вы ўсе разам, супольна з бацькамі мусіце гэту справу абмеркаваць. Неадкладна скажы маме. Яна хоць і пакрычыць, але ж кепскага табе не жадае. А ты памаўчы, вінаватая ж.

**Сэрцайка**

## Фота па заказу  HOMO HOMINI 



**Заказвалі:** Аляксандр Верамчук з Чаромхі, Юзаф Васько з Семяноўкі і Аліцыя Ляшчынская з Міхалова.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: П. быў у часе вайны вывезены на работы ў Нямеччыну. Працаваў у гаспадара і ў часе працы ў выніку няшчаснага выпадку быў пакалечаны, стаў інвалідам II групы. Цяпер ён працуе ў інвалідскім кааператыве. Ці прыслугоўвае яму дадатковы водпуск, прадбачаны для ваенных інвалідаў і ветэранаў?

АДКАЗ: Паводле закону з 23 кастрычніка 1975 года аб далейшым паляпшэнні належнага ветэранам і вязням канцэнтрацыйных лагераў, прыслугоўвае дадаткова 10 дзён водпуску, калі не карыстаюцца яны і без гэтага водпускам, даўжэйшым, чым 26 дзён. Аднак закон гэты адносіцца толькі да ўдзельнікаў барацьбы за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне айчыны, удзельнікаў руху супраціўлення, у тым ліку да тых, што праводзілі тайнае навучанне, да вязняў канцэнтрацыйных лагераў, у тым ліку асобаў праследаваных у гітлераўскіх турмах, а таксама да ўдзельнікаў змагання за ўмацаванне народнай улады. Закон не прымяняецца да асоб, якія былі вывезены на прымусовыя работы ў Нямеччыну, нават у выпадку, калі б яны ў часе працы ў Нямеччыне сталі інвалідамі. Таму дадатковы водпуск ім не належыцца.

## Куток практычных ведаў




### ЯК КАРМІЦЬ ДЗЯЦЕЙ У ШКОЛЬНЫМ УЗРОСЦЕ

Найважнейшае ў правільным харчаванні дзяцей школьнага ўзросту гэта рэгулярнае снеданне, абеды і вячэры. Асаблівай увагі патрабуюць наймалодшыя дзеці, якія ўпершыню пераступілі парог школы. Вельмі часта здараецца так, што, змяніўшы спосаб жыцця ў сувязі з вучобай у школе, дзеці трацяць апетыт; баючыся ж, каб не спазніцца ў школу, не хочуць есці снедання, а ў школе, галодныя, не могуць сканцэнтраваць сваю ўвагу на абавязковых занятках. У старэйшых дзяцей, якія занадта хутка выбягаюць з дому раніцай, не паснедаўшы, наглядаецца такая ж самая рэакцыя. У выніку гэтага маюць яны цяжкасці з прысваеннем неабходных ведаў і атрымліваюць недастатковыя ацэнкі. Так што на першае снеданне неабходна звярнуць вялікую ўвагу. Апрача першага снедання, абавязкова трэба падрыхтаваць дзецям другое снеданне, якое яны возьмуць з сабой у школу. У некаторых школах ёсць буфеты, дзе дзеці могуць купіць сабе другое снеданне. Аднак малым дзецям лепш бутэрброды падрыхтоўваць дома.

На першае снеданне найлепш падаваць дзецям малочны суп або малочны напітак. Дзеці ў школьным узросце павінны выпіваць каля літра малака ў дзень. Апрача малака, адным з галоўных прадуктаў дзіцячага снедання павінен быць сыр. Ёсць іх вялікая колькасць, і апрача тварагу варта даваць дзецям плаўленыя сыры. Лёгка іх можна перахоўваць, робячы большы запас. Дадаткам да першых і другіх снеданняў могуць быць крутыя яечкі, парэзаныя скрылёчкамі, або пасты з ячак. Трэба даваць таксама дзецям нятлустае печанае мяса, каўбасу, капчоную рыбу, і гэта зробіць іх харчаванне вельмі разнастайным. Нельга забываць аб адным: дзеці павінны есці масла! Нельга занадта часта замяняць масла на бутэрбродах маргарынам ці іншым тлушчам. Цёмны хлеб для дзяцей яшчэ лепшы як белы. Ну і не забывацца пра памідор, агурок, яблыка, або нават сырую моркву да ўсяго гэтага.

**Гаспадыня**

## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




У кожнай машыне разам з шафёрам ехаў эсэсавец. Начальнікам канвою быў назначаны афіцэр СС у званні оберштурмбанфюрэра. Ні Ястшэмбскі, ні іншыя вадзіцелі не ведалі гэтага чалавека і яго людзей. З абрыўкаў размовы эсэсаўцаў яны здагадваліся, што канваіры прыбылі ў Кенігсберг з глыбіні рэйха для выканання спецыяльнага задання. Калі вадзіцелі прыйшлі ў гаражы СС на вуліцы Штайндамштрасе, машыны ўжо стаялі, загружаныя нейкімі таямнічымі скрынямі.

Яны выехалі з Кенігсберга, накіроўваючыся ў Пілаў. У той час савецкія войскі пачалі артылерыйскі абстрэл. За некалькі кіламетраў ад горада, на шашы, што злучала Кенігсберг з Пілаў, градам пасыпаліся снарады. Рускія стараліся любой цаной прарваць тую лінію фронту, каб адрэзаць пастаўкі ў кенігсбергскую крэпасць.

Машыны лавіравалі сярод разрываў снарадаў, працягваючы рухацца наперад. Праехаўшы яшчэ некалькі кіламетраў, яны зноў папалі пад абстрэл. Непадалёк ішоў бой. Чуваць было, як стракаталі аўтаматы і разрываліся артылерыйскія снарады. Далей ехаць было нельга.

— Вяртаемся, — распарадзіўся начальнік канвою.

Вечарам яны вярнуліся ў Кенігсберг. Машыны паставілі ў цэнтральных гаражах СС, вадзіцелі разышліся па дамах.

Рынгель далажыў гаўляйтэру аб няўдалай спробе прарвацца ў Пілаў і заявіў, што заўтра яны паспрабуюць праехаць па другой дарозе.

— Трэба ехаць дарогай паміж узбярэжжам і Метгетэнам, — перапыніў яго Кох. — Я толькі што атрымаў паведамленне, што там спакойна. Рускія войскі спынены і адкінуты назад на кіламетр.

На наступны дзень канвой зноў накіраваўся ў дарогу. Ехалі павольна, аб'язджаючы варонкі ад бомб і снарадаў. Непадалёк грукатаў артылерыйскімі залпамі фронт.

Ястшэмбскі ехаў на сваім грузавіку ў сярэдзіне калоны. Яшчэ ў Кенігсбергу эсэсаўцы з эскорту перагрузілі некалькі скрынь з яго машыны на нечую іншую. Месца, што аслабанілася ў кузаве, занялі параненыя афіцэры.

Порт у Пілаў быў забіты цывільным насельніцтвам, ваеннымі і параненымі. Некалькі караблёў, перагружаных, стаяла на прычале, чакаючы надыходу цемры, каб прашмыгнуць у адкрытае мора. На судне з эмблемай Чырвонага Крыжа маракі з аўтаматамі разганялі пасажыраў, пагражаючы, што будуць страляць. Прапускалі толькі параненых афіцэраў вермахта і СС па спецыяльных прапусках.

На верхняй палубе стаяў капітан і асабіста назіраў, каб выконвалі яго распараджэнні. Да яго накіраваўся начальнік канвою. Капітан і чуць не хацеў аб нейкім грузе, нават самым каштоўным, акрамя параненых. У адказах на прагнозы эсэсаўцаў ён выклікаў маракоў з аўтаматамі.

У ваеннай камендатуры таксама ніхто не мог дапамагчы Рынгелю. У штабе СС яго ветліва сплавілі, а ў партовым упраўленні папрасілі пачакаць, абяцаючы аддаць карабель, якога ў порце пакуль яшчэ не было. Усюды панавала страшэнная неразбярыха, замяшанне, разгубленасць. Не бачачы выхаду, раззлаваны оберштурмбанфюрэр СС загадаў вяртацца ў Кенігсберг.

Веснавы дзень хіліўся к вечару. Начальнік канвою прыспешваў шафёраў, каб паспець у Кенігсберг да змяркання.

У наваколлі Фірбрудэркруга яны папалі ў вогненную завіруху. Ім удалося шчасліва праскочыць небяспечнае месца, але праз два кіламетры іх затрымаў патруль палявой жандармерыі, патрабуючы аслабаніць адну машыну для параненых.

Оберштурмбанфюрэр СС пачаў было пратэставаць, але, навучаны горкім вопытам Пілаў, змяніў рашэнне і выдзеліў для параненых машыну Ястшэмбскага, якая не была забіта, як астатнія. У наступную мінуту аўтакалона знікла ў клубах пылу. Параненых было многа; салдаты і навабранцы з фольксштурма, не раздумваючы, выкінулі ў прыдарожную канаву скрыні, што стаялі ў кузаве.

— А ты, шаноўны, нам больш не патрэбен, — звярнуўся да Ястшэмбскага малодшы лейтэнант, які кіраваў аперацыяй. Паляк выскачыў з кабіны.

А ў гэты час у Кенігсбергу...

*(Працяг будзе)*

З сямейнага жыцця

# КАЛІ ДОБРА—НЯДОБРА...

### СЦЭНКА ПЕРШАЯ

— Не чакала, дачка, што маці прыедзе? А я вось сабралася ды й паехала. Дай, думаю, пагляджу, як вы тут жывеце. А Васіль, муж, дзе? На рабоце яшчэ? А ўнук? У гарцэрскім лагеры? А чаго ж гэта ты, Каця, схудла? Такая была спраўная, а так змарнела. Ці не хвароба часам, дзіця?

— Галадаю я, мама.

— Во няшчасце, то хто ж сёння галадае? Ты ж працуеш?

— Я цяпер не працую, мама.

— Што ж, дачка, хто не працуе, той і не есць. Але ці ж муж табе зарплаты не аддае?

— Аддае, мама... Але я хачу быць такою, як бярозка. То ж і галадаю, каб схуднуць...

— Ды табе ж такі не дрэнна з Васілём? Ён жа не п'е, не б'е, зарплату аддае. Мо на чужых маладзіц заглядаецца?

— Не, мама, не заглядаецца. Ды нейкі ён такі вельмі ўжо ціхі і спакойны. Не магу я з ім жыць... Хоць бы стукнуў калі ці палаяў, каб я адчула, што ў хаце мужчына, а то такое —ні рыба, ні мяса — анёл святы...

— Дык што ж ты хочаш? Табе ж добра.

— Ды выходзіць, што добра, але калі ўсё вотак добра ды добра, то яно таксама не дужа добра.

### СЦЭНКА ДРУГАЯ

— Расказвайце, грамадзянка, толькі карацей.

— Дык я ж коратка. Такі басурман, такі кат, п'яніца...

— Карацей.

— Дык я і кажу, век бы яму не гаварыць. Быў Васіль, першы муж, як золата, а гэты паскуднік, а не муж, і п'е і б'е, і на чужых маладзіц заглядаецца, свету божага б яму не бачыць...

— Не кляніце.

— Хто яго кляне, будзь ён пракляты!

— Грамадзянка, прашу расказваць па сутнасці і коратка.

— Я ж і па сутнасці. Прыбягаю з працы, а ён ужо, дармаед, нідзе не працуе і ўжо „пад мухай"...

— Грамадзянка, карацей...

— Добра. Я коратка. Ён да мяне: „Го, го!" Я яму: „Га, га!", а ён зноў: „Ого-го!" І пайшло па хаце — гур, гур! Дзеці: „Ге-е, ге-е!". Тут маці: „Гэй, гэй!" і да суседзяў. Суседзі: „Гі-гі, гі-гі". Я вось да вас у міліцыю і прыбегла.

— Усё, грамадзянка, ясна. Пойдзем уціхамірым гар-гар. І што гэтым жонкам трэба?

**Нэля Касянчук**

*З музыкальнага жыцця.*

**Купаючыся ў славе, ён утапіў лаўровы вянок.**

# НІЎКА

*Чаго ў спорце не бывае!*

### САБАКА

Дацэнт Скок звоніць у дзверы прафесара Казлўкі, на якіх вісіць таблічка: „Асцярожна, сабака!" На званок выходзіць гаспадар з маленькай сабачкай на руках.

— Гм, навошта ж вы павесілі гэту аб'яву? — пытае дацэнт.

— Каб хто-небудзь выпадкова не наступіў на сабачку.

### ДЗЕ ІНСТРУКЦЫЯ?

— Божа мой, я не магу больш вытрымаць! — скардзіцца маці свайму чатырохгадоваму сыну. — Твой брацік плача цэлымі днямі! Я проста не ведаю, што рабіць?

— Як, мама, ці ж разам з ім ты не атрымала інструкцыі па абыходжанню з ім?

## ТРЫМАЙЦЕ ВУХА?

Клуб прыхільнікаў пра ...

### РАКІ З ГАКАМ

Сонца з промнямі жар-птушкі
Асвяціла
Плёс ракі.
Ля кастра, пад'еўшы юшкі,
Гаманілі рыбакі.

Тут хвалько адзін заякаў:
— Я аднойчы ўзяў з ракі
Сотню ракаў...
Сотню з гакам...
Ці паверыце, браткі?

Нейкі жартаўнік у момант
Адказаў:
— Быць можа, й так.
Толькі, зрэшты, невядома,
Ці вялікі быў той гак?

**Х. Ляшкевіч**

## ГУМАР З БАРАДОЮ

### АБЫ НЕ ПАН

— Тату, тату! Чорт да нас лезе ў хату!

— Глупства! Абы не пан.

### MADE IN ZADRYPANKA

*Сумешчаны радыёвузел.*

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Да мэра маленькага гарадка заходзіць палкоўнік.

— Мсье, як вы ведаеце, мы праводзім манеўры, і я хацеў бы спытаць у вас, колькі салдат змагло б размясціцца на ноч у мэрыі?

— Не ведаю, пане палкоўнік, але днём там спяць трыццаць служачых.

*

Экскурсія аглядае ваенны карабель.

— А вось на гэтым месцы, — гаворыць гід, паказваючы на задраены люк, — паў наш адважны капітан.

— Нічога дзіўнага, — мармыча пажылая ледзі, — я таксама тут увесь час за нешта чапляюся і на нечым спатыкаюся...

*

Адвакат: — Перш чым абвясціць завяшчанне пана Глюдзенквіста, я б хацеў задаць адно пытанне яго ўдаве: — Васпані, ці не выйдзеце вы за мяне замуж?

### АД СТАРАСЦІ

— Доктар, правая нага ў мяне вельмі баліць.

Доктар Знахарук агледзеў.

— Гэта ад старасці, дзядуля.

— Хм... Няўжо ў мяне левая нага маладзейшая?..

З „Веснікі Задрыпоніі"

### ПАЛАЦ КНІГІ

Будаўнікі горада ўручылі работнікам задрыпкнігагандлю ключы ад цудоўнага шматпавярховага будынку. У будынку ўвесь час падтрымліваецца аптымальны для хавання тэмпературны рэжым і вільготнасць. Тысячы кніг захоўваюцца тут, перш чым іх здадуць у макулатуру.

### ГАПКА РАЗВАЖАЕ

Страшны не сон, а яго тлумачэнне.

*Сын ажаніўся.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Ніны Весялоўскай з Астрахан і Галіны Назарук з Орлі змяшчаем песню*

## НАДЕЖДА

**Музыка Александры Пахмутовой**
**Слова Николая Добронравова**

Светит незнакомая звезда,
Снова мы оторваны от дома,
Снова между нами — города,
Взлетные огни аэродромов.

Здесь у нас туманы и дожди,
Здесь у нас холодные рассветы,
Здесь на неизведанном пути
Ждут замысловатые сюжеты...

Припев:

Надежда — мой компас земной,
А удача — награда за смелость,
А песни...
довольно одной,
Чтоб только о доме в ней пелось.

Ты поверь, что здесь, издалека,
Многое теряется из виду,
Тают грозовые облака,
Кажутся нелепыми обиды.

Надо только выучиться ждать,
Надо быть спокойным и упрямым,
Чтоб порой от жизни получать
Радости скупые телеграммы...

Припев.

И забыть по-прежнему нельзя
Все, что мы когда-то не допели,
Милые усталые глаза,
Синие московские метели...

Снова между нами города,
Жизнь нас разлучает, как и прежде,
В небе незнакомая звезда
Светит, словно памятник надежде.

Припев.

## КУРЪЁЗЫ

### РАЗВОДЫ

У ЗША выпадкі разводаў дзелавых людзей растуць амаль у геаметрычнай прагрэсіі. Як сведчыць часопіс „Ю. С. Ньюс энд Уорлд рыпарт", асабліва жонкі палітычных дзеячаў выказваюць незадавальненне паводзінамі сваіх гаспадароў, якія амаль не бываюць дома. А тыя ў сваю чаргу гатовы заўсёды даць развод, бо жонкі, седзячы дома ў адзіноцтве, пачынаюць піць гарэлку, каб знайсці нейкае суцяшэнне, і становяцца алкагалічкамі. Такім чынам ужо больш дзесятка сенатараў і каля 70 кангрэсменаў скасавалі шлюб.

### ЛЯЧЭННЕ НА АДЛЕГЛАСЦЬ

Нейк да Рэнтгена прыйшоў ліст. Адзін грамадзянін прасіў вучонага выслаць некалькі рэнтгенаўскіх праменняў, вытлумачыўшы, як імі карыстацца. Выявілася, што ў яго груднай клетцы, застрагла рэвальверная куля, але прыехаць да Рэнтгена аўтар лісту не можа за бракам часу.

— На жаль, ікс-праменняў у мяне зараз няма, — адпісаў Рэнтген. — Да таго ж перасылаць іх — досыць складаная штука. Зробім прасцей: прышліце мне вашу грудную клетку.

### КАРЫСНАЯ ПАРАДА

Адна дама спытала Бернарда Шоу, ці не параіць ён ёй, як стаць высокамудраю. На гэта Шоу сказаў:

— Трэба толькі старацца хаваць свае дурныя думкі.

## між намі

**Барада — прыкмета старасці, але яна ёсць і ў казла.**